# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 15 (1665) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 10 КРАСАВІКА 1988 г. ЦАНА 20 зл.




## „Лявоны“

### Спяваюць і танцуюць на Беласточчыне

Згукам, спевам, піскам ражкоў і пераліврстымі трэлямі дудак, убеглі — не ўвайшлі — „Лявоны“ на сцэну Беластоцкай філармоніі: „Чаму ж мне ня пець, чаму ж ня гудзець, калі ў маёй хатачцы парадак ідзець!..“ — і вось ужо ражок пісклівы імітуе свойскі плач дзіцяці, што „ў калысцы, як бычок, равець“.

Здаецца, усю абаяльнасць беларускай народнай песні, усе непаўторныя пахі Беларусі, усю радасць жыцця і стваральнай працы сабралі яны з роднай зямлі і шчодрай жменяй сыпнулі аняменшай ад захаплення публіцы. І паліліся: „Ой, у полі тры дубы“, „Ой, ты хмель мой, хмялёк“, „Чаму ж не прыйшоў, як месяц ўзышоў?“, „Захварэла яго жонка, як толькі ажаніўся“ і... кадрылі, кадрылі: „Воранаўская“, „Вінцукоўская“, кадрыля „Чорная“, кадрыля „Белая“...

А зала грымела навальніцай.

Наперадзе быў ён, з неразлучным гармонікам у руках, іграў, спяваў, танцаваў — Вячаслаў Мацкевіч, стваральнік і кіраўнік „Лявонаў“ (на здымку). Даваў з сябе ўсё. Вось не выціснеш, здавалася, больш з чалавека — і канец. Сябры пасля казалі, што гэтак робіць ён усё, за што толькі не возьмецца. Не шчадзіць ён сябе, сваім упорам давядзе кожную задуму да канца, а да таго ж умее знайсці людзей і не баіцца даверыцца ім.

Беларускі самадзейны калектыў „Лявоны“ нарадзіўся і надалей дзейнічае ў мястэчку Воранава — сямітысячным раённым цэнтры, што знаходзіцца ў 30 кіламетрах ад Ліды, а ў 12-ці — ад граніцы Літвы. Аб'ядналіся ў 1981 годзе. Штуршок цаў Гродзенскі абласны фестываль фальклорнай песні... і адразу сталі лаўрэатамі.

У Беластоку яны ўжо другі раз. У мінулым годзе выступалі тут на кірмашы ў месяцы чэрвені. Хаця ў калектыве адзінаццаць чалавек, то сёлета змагло прыехаць толькі дзесяць: кіраўнік групы Вячаслаў Мацкевіч (гармонік), ён жа — дырэктар Воранаўскай музычнай школы, Валерый Рыхлевіч (дудка), Вацлаў Стэфановіч (кантрабас), Рычард Маркелевіч (ражок), Аляксандр Мацюк (дудка), Аляксандр Кукін (тамбурын), Эдуард Лі (скрыпка) — бацька ў яго карэец з Хабараўска, маці — беларуска, Мікалай Шманок (дудка, гармонік), Уладзімір Рыхлевіч (барабан), Іван Пецюль (дудка, ражок), самавук. Усіх іх здо-

(Працяг на стар. 3)

## Рыгору Семянюку — 90 год

Жыццё пражыць — не поле перайсці, гаворыць народная прыказка. А пражыць яго прыгожа, працавіта і аставіць па сабе след — справа вялікай важнасці.

Рыгор Семянюк з Раек, што на Бельшчыне, трывалы след па сабе аставіць. І з нагоды яго 90-ай гадавіны пішу ў вялікім скарачэнні аб яго жыццёвым шляху.

Нарадзіўся ён 27 сакавіка 1898 года ў Райках. У 1914 годзе Семянюкі як бежанцы апынуліся ў далёкай Самары. Там Рыгор пайшоў на работу ў гарбарню, а ў 1918 годзе трапіў у армію і служыў ён у 133 пяхотным запасным палку Чырвонай Арміі. У 1921 годзе Семянюкі вярнуліся ў свой родны кут — у вёску Райкі. І з гэтай вёскай звязаны яго лёс, яго жыццё аж да сёння. Тут ён жыў і працаваў на гаспадарцы, тут ён ажаніўся і разам са сваёй жонкай Агатай гадаваў трох сыноў. Тут сутыкаўся з жыццёвымі цяжкасцямі і часта з недастаткам. Тут пераживаў і радасці, і гора.

Радасці заўсёды многа, калі дзецям добра і ўцешна. А з горам вялікім трэба было зжывацца, калі прыйшла павестка аб смерці Міхася, які служыў у Савецкай Арміі і загінуў у баях з немцамі. Пахаваны ён у брацкай салдацкай магіле ў Квідзыні. Рыгор Семянюк ездзіў са сваімі сынамі на магілу Міхася. Там усе Семянюкі разам пакланіліся яму як салдату Савецкаі Арміі, як вызваліцелю ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў,

(Працяг на стар. 4)



## НА МЯЖЫ




Я ўжо пісаў аб бацькоўскім цэпе, які знаходзіцца ў маёй варшаўскай кватэры. Дарэчы, нейкі студэнт у анкеце, звязанай з паасобнымі аўтарамі і артыкуламі ў „Ніве“, напісаў, што найгоршымі публікацыямі, на яго думку, з'яўляюцца мае артыкулы аб цэпе і аб Тарашкевічу. Я ніякай злосці да аўтара анкеты не адчуваю, тым болей, што аграмадная большасць аўтараў анкет выказала адмоўную апінію аб маіх публікацыях.

У артыкуле „Аб цэпе“ я апісаў адну з найбольш цяжкіх старонак у сваім жыцці. Датычыла яна часоў акупацыі і маёй не па гадах цяжкай працы як малацільшчыка. Я разумею, што гэта для маладога чалавека, які ніколі ў руках не трымаў цэпа, ніякая не праблема. Калі б мне, скажам, у дзяцінстве мой дзед расказаў аб феадальнай рэчаіснасці, я, бадай, успрымаў бы яе таксама як нешта такое, што ўвогуле мяне не датычыць. Зрэшты, прывяду прыклад больш пераканаўчы. Калісьці мая маці гаварыла мне, што ў перыяд яе маладосці яна і яе чатыры сястры настолькі недаядалі, што калі маці толькі замясіла хлебнае цеста, дык яны падкрадаліся да дзежы, хапалі рукамі сырое цеста і елі яго. І гэтае цеста было для іх такое смачнае, як найлепшая каўбаса ці салодкі пірог.

Я ў дзяцінстве не жыў у раскошы, аднак у нашай хаце заўсёды, нават у гады вайны быў хлеб, была бульба і наогул была саланіна. Было таксама малако. І таму я спытаў у маці:

— А чаму гэта вы не хацелі паждаці, аж хлеб упячэцца?

— Не маглі вытрымаці, — адказала маці, — бо вельмі хацелася есці.

Усё ж-такі я не вельмі разумеў маці. Думаю, што поўнасцю зразумее такое толькі той, хто сам быў у жыцці доўга і часта галодны.

Ці трэба гаварыць аб тым, што было, але чаго ўжо ў жыцці няма? Думаю, што трэба, бо як чалавек, так і грамадства не сфарміруюць правільна сваёй будучыні, не пазнаўшы дакладна мінулага. Зрэшты, гэта якраз чытачы „Нівы“ разумеюць. Падцвярджаецца гэта вынікамі спомненай анкеты, якая паказала, што мой цыкл „Беларускі фальклор“ апынуўся на першым месцы сярод усіх публікацый у „Ніве“. Дарэчы, некалькі студэнтаў залічыла „Беларускі фальклор“ да рубрык „ўвогуле ў „Ніве“ непатрэбных“. Так яно часам бывае, што асобы, якія хочуць кампраметаваць кагосьці, кампраметуюць саміх сябе.

Маем усё ж моцныя падставы для таго, каб сцвердзіць, што сённяшняе маладое пакаленне беларусаў цікавіцца мінулым, і таму абавязак старэйшых гаварыць аб ім так, як яны толькі патрапяць. Асмелены вынікамі анкеты, я хацеў бы вярнуцца да матчынага сярпа. Хаця адзін з журналістаў „Нівы“ ў сувязі з маім пяцідзесяцігоддзем напісаў, што я за лета нажаў некалькі коп збожжа, то гэта была няпраўда. Я не мог нажаць так многа збожжа, бо жаць не ўмею. У дзяцінстве паспрабаваў жаць сярпом. Вельмі моцна парэзаў пры гэтым палец і кінуў жаць на ўсё жыццё. У нас жалі толькі жанчыны і, трэба сказаць, жалі вельмі доўга. Яшчэ ў пачатку пяцідзесятых гадоў мой бацька нікога з касой на поле не пускаў. Пускаў толькі жанчын з сярпамі. А што значыць нажаць сярпом 30-35 коп жыта, пяць-шэсць коп пшаніцы, восем-дзесяць коп аўса, адну-дзве капы проса, ведае толькі той, хто жаў. На працягу многіх гадоў я прыглядаўся да гэтай сапраўды катаржнай работы. Як пры гэтым жанчыны яшчэ маглі, вяртаючыся з поля, спяваць песні, я не ведаю. А якая ж музыка спадарожнічала жніву, як шасцелі сярпы ў збожжы, якой вясёлкай узвівалася над галавой жменя каласоў, адкладаных на сноп, як цудоўна выглядалі снапы, якія пад вечар засцілалі ўсю доўгую палоску, а які ж радасны тады від мелі жоўтыя накрытыя „шапкамі“ ляшкі жыта ці пшаніцы. А ці ж непрыемна было пасля везці ў пуню велізарныя фуры збожжа?! І калі пасля прыглядаўся чалавек да велізарнай скірды снапоў, дык цяжка было паверыць, што ўсё гэта было зжата маленькім сярпом і слабымі рукамі маці і сястры. Якраз таму ніколі ў жыцці не пазбудуся захаплення, не выкіну з сэрца культу матчынага сярпа. Ён — частка нашай хаты, нашага поля, нашага хлеба і нашай сям'і. Хай будзе благаслаўлёная гэтая прылада — сімвал мучэння і радасці, сімвал працоўнай Беларусі. Пішу гэта і цісну́цца мне ў памяці радкі нейкага, бадай што эмігранцкага, паэта:

Так не хочацца верыць чамусь,  
Што сярпы у палях адзвінелі  
І жніўнёвая ўжо Беларусь  
Адцвіла у кустах счырванелых.

Так, адзвінелі назаўсёды сярпы маёй маці, але той серп, які вісіць у маёй кватэры, усё яшчэ пахне бацькоўскім жытам і матчыным хлебам.

**Алесь Барскі**




### МІКАЛАЮ ПАНФІЛЮКУ Ў АДКАЗ

Дарагі сябра! Вельмі мяне здзівіла тваё павучэнне, якога ты мне не пашкадаваў у восьмым нумары „Нівы“. Ты, будучы ў пастаянным канфлікце з „Нівай“, а быў час, што і зусім пагневаўся ды перастаў пісаць ў яе, раш мне пагадзіцца з тым, што ў рэдакцыі папраўляюць мае матэрыялы, дапісваючы думкі, якіх я не меў і не маю. Таму я цябе запытаю: а чаго гэта ты так часта нападаеш на „Ніву“, іншы раз у цалкам малаважных справах?! Зрабі пералік сваіх папрокаў і тады пабачым, у каго з нас болей „грахоў“. Калі цябе задавальняе толькі тое, што пад тэкстам надрукавана тваё імя і прозвішча, дык гэта ўжо чыста твая справа. Бо для мяне болей важнае тое, каб тэкст, пад якім надрукавана маё імя ды прозвішча, быў маім тэкстам, з маімі думкамі. Толькі тады і магу прыняць на сябе ўсю адказнасць за яго.

У адным са сваіх артыкулаў я падшчыпнуў белавежскіх навукоўцаў. У рэдакцыі ж падправілі мой тэкст гэты так, што выглядала: добра я ім даў! Неўзабаве з'явіўся ў „Ніве“ ліст начальніка Белавежскай гміны, у якім ён бараніў тых жа навукоўцаў, даказваючы, што я залішне чапіў іх. І я згодны з начальнікам, з тою, аднак, агаворкаю, што гэта не я іх так моцна чапіў.

Іншы прыклад. Пахваліў я белавежскія інвестыцыі, а гэтым самым і начальніка гміны і старшыню нарадовай рады. У рэдакцыі „Нівы“, апрацоўваючы мой тэкст да друку, так „разгарнулі“ маю думку: калісьці хвалілі начальнікаў у пачатку, а цяпер у канцы. Людзі перапынялі мяне і пыталі, адкуль мне вядома, што начальнік Паўлючук і старшыня Семянюк будуць пазбаўлены сваіх пасад?! Давялося чырванець!

Здаецца, што пішу я ясна, разборліва. І канкрэтна. Разжоўваць мае тэксты няма патрэбы. Прытрымліваюся я і такога прынцыпу: аніякай фікцыі і аніякай фантазіі.

Дарагі Мікалай, ты проста не зразумеў сутнасці маіх прэтэнзій да рэдакцыі.

**Пятрусь Байко**




**Раман Лаўрэш, Бельск.** Чаму беларусы перастаюць быць беларусамі? — ставіце драматычнае пытанне і не знаходзіце адказу. А прычына знікнення нашай нацыі простая і відавочная: не было і няма беларускага выхавання наступных пакаленняў! Як можна быць беларусам, калі ніхто табе не растлумачыў, што гэта такое? Якая гісторыя? Таму і склалася так, што беларус — гэта той, хто арэ, сее і быдла даглядае, а калі ўжо трохі пайшоў угару і чысцейшае адзенне надзеў, то не можа быць беларусам. Такога і царква ўжо не выратуе з рускай моваю.

**Павел Рудкоўскі, Новая Карчма Яленегорскага ваяв.** Дзякуем вам вельмі за дасланыя беларускія песні, якія вы запамяталі ад часоў сваёй маладосці на беларускім Палессі, каля Лунінца. Ваша пасылка, вядома, узбагаціць запасы нашых запісаў беларускай народнай культуры, якімі карыстаемся пры нагодзе кніжных або каляндарных выданняў. (ся)

СТАРОНКІ МІНУЛАГА

## КАМІТЭТ ПРАВАСЛАЎНЫХ ПАЛЯКАЎ У БЕЛАСТОКУ

Улады ў гадах 1933-1934 даўмеліся, што трэба пачаць развальныя працэсы ў асяроддзі праваслаўных у Беластоку. Дабіўшыся згоды з боку праваслаўных іерархаў, утварылі Камітэт праваслаўных палякаў.

Бачачы, што Камітэт праваслаўных палякаў ледзь з духам трымаецца, а напраўду, дык нават і не арганізаваўся ён як след, беластоцкі ваявода паклікаў да сябе ўсіх тых нешматлікіх службоўцаў праваслаўнага веравызнання, катэгарычна прапануючы ім у выглядзе нібыканферэнцыі, каб уступалі ў камітэт і дзейнічалі ў ім. Бадай ці не самым галоўным заданнем гэтага камітэта мелася быць паланізацыя царквы, перавод багаслужбаў на польскую мову (не гаворачы ўжо пра пропаведзі).

У час тае канферэнцыі знайшліся, аднак, такія, якія паставілі пад сумненне сэнсоўнасць гэтай мэты. Але ваявода не гуляў у далікатнасці, заявіў, што запрасіў ён усіх сюды не для дыскусіі і развагаў... Гэта быў загад! І калі хто нязгодны, дык ужо заўтра можа... не прыходзіць на сваю работу.

У сувязі з такім дыктатам — прысутныя, панурыўшыся вачыма ў падлогу, падпісалі дэкларацыі членаў Камітэта праваслаўных палякаў, выбралі Раду і яе прэзідыум. Арганізацыя хутка атрымала памяшканне для дзейнасці, на рагу вуліц Сянкевіча і Аградовай. Дзейнасць пачалася ад утварэння хору, які ўзначаліў Канстанцін Кіслы. У гэты хор былі запрошаны і царкоўныя пеўчыя. Камітэту не бракавала грошай.

Праз тры месяцы хор павінен быў быць гатовым выступіць у беластоцкай царкве з польска-праваслаўнымі спевамі. Хор налічваў дваццаць тры асобы.

Узнікла маральнае пытанне: як быць далей? Выпісацца з гэтага камітэта — будзе бяда; не выпісацца — другая бяда. Прыдумалі просты спосаб, пад які не падкапаешся: пры нагодзе, канкрэтна, падчас банкету вырашана было ўзняць жорсткую сварку паміж сабою, якая і паралізавала б цэлы гэты камітэт. Ну, вучыць беларусаў сварыцца не вельмі і трэба, таму задума ўдалася беспраблемна. Скандал падняўся такі, што і сам чорт драпануў бы ў сваё пекла, каб акрыяць!

Хор, вядома, распаўся. Разам з ім і той камітэт пахілеў. Тым не менш першая багаслужба на польскай мове ў беластоцкай царкве адбылася. Духоўныя чыны на чале з прасвіцерам Ёсіпам Гуткевічам і прат. Пятром Гуткевічам, дыяканам Паўлам Лысухаю, у прысутнасці групкі дзеячоў праваслаўных палякаў, адслужылі гэтую багаслужбу. У царкве было пуста, звычайныя прыхаджане не прыйшлі, бо яны не былі матэрыяльна залежныя непасрэдна ад уладаў. Гэта было дзікае відовішча, пасля якога ўлады адступіліся ад сваіх націскаў паланізаваць царкву.

**Кастусь Сідаровіч,**  
Беласток.

# ХРОНІКА

Гарадскі аддзел у Гайнаўцы амаль закончыў ужо справаздачна-выбарную кампанію ў гуртках БГКТ. Не адбыўся сход толькі ў адным гуртку на восем існуючых. Галоўная справа, якая закранալася падчас дыскусіі, — усебаковая дапамога Беларускаму музею, які будуецца ў Гайнаўцы.

12.02. На Гайнаўскім прадпрыемстве лясных машын у склад новага праўлення ўвайшлі: Рыгор Сурэль — старшыня, Рыгор Кандрацюк — сакратар, Надзя Тафілюк — скарбнік і член праўлення Іван Петручук, а старшынёй рэвізійнай камісіі выбраны Мікалай Семянюк.

17.02. На Гаспадарчым прадпрыемстве, у якім налічваецца 50 членаў, у склад праўлення гуртка выбраны: Марыя Цыборан — старшыня, Люцына Койла — намеснік старшыні, Уладзімір Васілюк — сакратар, Вера Кічкайла — скарбнік і члены праўлення — Вера Мацюка, Яўген Артэмюк і Крыстына Ардынская. Старшыня рэвізійнай камісіі — Яўген Шварц.

17.02. У Аб'яднанні прафесіянальных школ на справаздачна-выбарным сходзе было выбрана новае праўленне гуртка ў складзе: Мікалай Еўдасюк — старшыня, Леаніда Беразавец — сакратар, Сяргей Юзючук — скарбнік і члены — Віктар Дзік і Аляксандр Валчук. Рэвізійную камісію ўзначаліў Павел Іващюк.

18.02. Члены гуртка на Прадпрыемстве лясной прамысловасці „Лес“ выбралі новае праўленне: Галена Ігнацюк — старшыня, Аляксандр Рожка — сакратар, Анна Аксантовіч — скарбнік і Валянціна Герасімюк — член. Старшыня рэвізійнай камісіі — Галена Стасенька.

18.03. У Беларускім ліцэі новае праўленне гуртка БГКТ складаецца з наступных асоб: Аліна Маліш — старшыня, Анна Аверчук — сакратар, Юрка Вапа — скарбнік, члены праўлення — Эва Семянюк, Эва Мароз і Міраслаў Ваўранюк.

*

У Гайнаўскім гмінным аддзеле справаздачна-выбарная кампанія таксама разгарнулася шырока. У многіх вясковых гуртках адбыліся ўжо справаздачна-выбарныя сходы.

16.03. У сходзе гуртка ў Рэпісках удзельнічалі — намеснік старшыні ГП БГКТ Янка Зенюк і член грамадскага камітэта будовы Беларускага музея ў Гайнаўцы Янка Тапалянскі.

Пасля справаздачнага даклада закрануты былі справы падтрымкі рознымі формамі будовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы ўключна са зборам экспанатаў, а таксама актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці вёскі. Пастаноўлена ажыццяўляць лозунг — „Ніва“ і беларускія радыёперадачы ў кожнай хаце“.

Падчас галасавання выбраны

(Працяг на стар. 5)




*Вясна прыйшла.*
*Мал. Ул. Петрука.*

# РЫГОРУ СЕМЯНЮКУ — 90 ГОД

(Працяг са стар. 1)

як любімаму сыну і брату, загінуўшаму заўчасна. Ускладанне кветак так усхвалявала старога бацьку, што доўга пасля гэтага не мог ён адазвацца. Вельмі перажываў ён і смерць сваёй жонкі, якая памерла ў 1983 годзе на 88-м годзе жыцця.

Але ўжо так ёсць, што час гоіць душэўныя раны. Старому Рыгору на радасць асталіся два сыны: Валік і Ваня ды ўнукі.

Разам з Валікам усё жыццё жыве ён пад адным дахам, мае свой уласны пакой. Атрымоўвае штомесяц сялянскую пенсію.

На радасць сынам і ўнукам дзядзька Рыгор яшчэ ў добрым здароўі, мае добры зрок і слых, добрую памяць, любіць многа чытаць ды яшчэ да работы рвецца. Але Валік не дазваляе яму цяжка працаваць. Рыгор жа, калі не працуе, не адчувае жыцця. У мінулым годзе памагаў сушыць сена. У яго яшчэ



моцная хада. Хадзіў ён летась пяшком у Бельск, да якога 9 кіламетраў. У Бельску наведвае сына Івана, які тут са сваёй сям'ёй жыве і працуе на адказнай пасадзе.

Рыгор Семянюк аставіў па сабе след у дзейнасці Беларускага таварыства. У канцы 50 гадоў быў ён старшынёй гуртка БГКТ у Райках. Праславіўся ў сваёй вёсцы як арганізатар грамадскіх пачынаў пры будове святліцы. Быў таксама заснавальнікам вясковага драмгуртка.

У „Беларускім календары на 1966 год“ на 160 старонцы сказана, што ў Райках „члены гуртка БГКТ арганізавалі таксама сваімі сіламі пастаноўку п'ес і бяруць удзел у павятовым аглядзе драмгурткоў БГКТ. Між іншым, Рыгор Семянюк, нягледзячы на свой пажылы век, належыць да лепшых аматараў свайго драмгуртка“.

Дзейнасць Рыгора Семянюка на культурнай і арганізатарскай БГКТ-оўскай ніве лічылася тады высока не толькі ў Бельскім аддзеле БГКТ. IV з'езд Беларускага таварыства выбраў яго ў склад членаў Галоўнага праўлення. Старэйшае БГКТоўскае пакаленне помніць яго цікавыя і канструктыўныя прамовы на розных форумах. Аб яго 90-ай гадавіне жыцця памятаюць і ў цяперашнім Прэзідыуме ГП і ў „Ніве“. 26 сакавіка Рыгора Семянюка наведалі ад імя Прэзідыума ГП Аляксандр Баршчэўскі, Міхась Хмялеўскі і Кастусь Майсеня. Уручылі юбіляру Ганаровую грамату ГП БГКТ, склалі віншаванні і пажаданні моцнага здароўя.

**Міхась Хмялеўскі**

**Дзеці з Каракуліна**




Канчалася лета 1944 года. 57 гвардзейская стралковая дывізія вяла заўзятыя баі за ўтрыманне і пашырэнне Варэцка-Магнушэўскага плацдарма. Гэта на поўдзень ад Варшавы, у абойме ракі Віслы, Пііліцы і Радомкі.

— Вось там дык папрацавалі нашы артылерысты! — з гордасцю заяўляе былы гвардыі радавы, артылерыст Генрык Букерт!

— І вы не баяліся? — пытаю, каб заахвоціць яго да ўспамінаў.

— Баяцца? — глядзіць на мяне з усмешкай. — А чаго? Палкоўнік Яфімаў на крок мяне ад сябе не адпускаў, ды і „Кацюшы“ заўжды ішлі далекавата ад перадавой. Пад'едуць, бывала, грымнуць маланкавым залпам і гайда назад, у бяспечнае месца...

Першы раз атаку Генрыку Букерту давялося бачыць яшчэ ў баях за горад Львоў. Пасля быў Холм ды Люблін. І вось гэты прывіслянскі плацдарм. Пад канец жніўня баі тут стабілізаваліся. Немцы, паламаўшы свае стальныя зубы ў час першых заўзятых атакаў, зразумелі, што ім не пад сілу адкінуць савецка-польскіх саюзнікаў за Віслу.

Над Віслай зноў заспявалі птушкі. Заставалася больш часу на роздумы. Вярнулася туга за домам. Больш-менш ад месяца часу Беласток быў ужо свабодны. Ва ўсіх паведамленнях з фронту гаварылася аб паспяховых баях на захад і на поўнач ад Беластока. Што з мамай? Ці жывая? Генрык рашыў напісаць ёй пісьмо.

— Таварыш палкоўнік, — звярнуўся да свайго апекуна, — дазвольце напісаць ліст маме.

— На гэта і дазволу не трэба, — адказаў падпалкоўнік Яфімаў. — Цікава было б ведаць, як ты размалюеш наша армейскае жыццё!

Ліст быў кароткі. Генрык паведамляў, што ён жыў ды здароў, чаго і жадае ўсім блізкім ды родным, што знаходзіцца пад апекай Савецкай Арміі, на правах сына палка, што жывецца яму добра, заўжды ён сыты, абуты і апрануты. „...нецярпеліва чакаю ад вас адказу. Ліст кіруйце па палявой пошце — 18926“, — Генрык Букерт цытуе па памяці заканчэнне свайго пісьма да мамы.

І, сапраўды, неўзабаве прыйшоў адказ з Беластока, што маці, дзякуй Богу, таксама жыва і здарова, хаця навокал стольнкі бяды, крыві, смерці... На ісочку-трохвугольніку, напісаным хімічным алоўкам, выразна значыліся сляды ад слёз. І Генрык не ўстрымаўся. Заўважыў гэта падпалкоўнік Яфімаў, пабацькоўску пагладзіў яго русую галоўку і прыціснуў яе да грудзей.

— Я хачу дамоў! — цераз слёзы папрасіў Генрык. — Мама ў мяне адна, яна хворая, я ведаю, хаця яна аб гэтым не піша, а бацька на фронце загінуў, яшчэ ў 39-ым годзе...

— Добра, я не супраць, — адказаў падпалкоўнік Яфімаў. — Наша армія неяк і без цябе дойдзе да Берліна...

## СЯБРЫ „НІВЫ"

Шматгадовыя начальнікі поштаў у Старым Ляўкове і Нараўцы — Міхал Смольскі і Сцяпан Кот паінфармавалі мяне, колькі падпісак на „Ніву" ў Старaляўкоўскай і Нараўчанскай акругах.

Кожную пятніцу на пошту ў Старым Ляўкове прывозяць 57 экземпляраў беларускага тыднёвіка. Найбольш падпісчыкаў на „Ніву" мае малады пісьманосец Міраслаў Рэнт — роўна пяцьдзесят, у тым ліку трыццаць гадавых, чатырнаццаць паўгадавых і шэсць квартальных. „Ніва" найбольшай папулярнасцю карыстаецца ў жыхароў вёсак: Ляшукі, Міхнаўка, Навіны, Церамкі і Парослае.

Нараўчанскія пісьманосцы маюць 78 падпісак на „Ніву", у тым ліку 73 гадавыя. Сорак чатыры экземпляры тыднёвіка бярэ ў сваю торбу ў кожную пятніцу шматгадовы лістаносец Уладзімір Васільчык. Вязе яго да пастаянных чытачоў у Масева, Альхоўку, Гушчэвіну і іншыя вёскі.

Яго калега па рабоце — Уладзімір Барташэвіч у той дзень дастаўляе 26 „Ніў", між іншым, у Скупава, Стачок, Мінькоўку і Заблотчыну.

(яц)

## З ЛІТОЎСКАЙ КУХНІ

### ГУСКА, ФАРШЫРАВАНАЯ КАШАЙ З ГРЫБАМІ

На адну гуску трэба ўзяць дзве шклянкі грэцкай крупы або панцаку, 15 сушаных баравікоў, адно яйка, адну лыжку масла, 15 дэкаў саланіны, дзве цыбулі, адну моркву, дзве пятрушкі (карэнні і зеляніну), адну лыжку пасечанага ўкропу, соль, перац.

Выпатрашаную, ачышчаную і памытую гуску нацерці соллю і перцам. Зварыць памытыя грыбы. Асобна зварыць сыпкую кашу, дадаць пасечаную і крыху падсмажаную на масле цыбулю з морквай і карэннямі пятрушкі, укроп і яйка.

Усё перамяшаць разам і пасаліць. Атрыманы фарш палажыць у гуску і зашыць яе. Гуску ў ванначцы абкладзіць нарэзанай саланінай і пячы ў духоўцы гадзіны 2-3, паліваючы растопленым тлушчам. Каб гуска занадта не высыхала, добра было б падліць яшчэ крыху вады.

### КАЎБАСКІ, ВАРАНЫЯ Ў ПІВЕ

На 1 кілаграм сырых свежых каўбасак трэба ўзяць паўтара літра піва, лыжку масла і маргарыну, дзве вялікія цыбулі, 1/3 лімона, дзве лыжкі мукі, чатыры лыжкі вады, 1 кг бульбы, 1 кг кіслай капусты.

Каўбаскі палажыць у каструльку, дадаць тлушч і нарэзаную скрылёчкамі цыбулю; заліць усё півам і варыць. У канцы дадаць нарэзаны скрылёчкамі лімон, уліць разведзеную вадой муку, усё перамяшаць і яшчэ крыху падварыць.

Каўбаскі падаваць на стол, палітыя соусам, у якім яны варыліся. Да іх падаюць бульбу, звараную у лупінах, а таксама кіслую капусту.

Гаспадыня



*Мацярынства.* *Фота Ю. Трачука.*

У дарогу адправілі яго з рэчавым мяшком, у які напакавалі хлеба, сала і „свіной тушонкі", а да таго далі яшчэ спраўку, што Генрык Букерт, сын палка, накіроўваецца ў горад Беласток з мэтай сустрэчы з роднай маці.

— У Беластоку наша сям'я калісь жыла на вуліцы Чарнецкага. Мамы дома, аднак, не было. Пачаў я распытваць у суседзяў, дзе яна. Збегліся хлопцы з суседніх панадворкаў. Некаторых я пазнаў адразу. Яны ж паводзілі сябе неяк дзіўна, трымаліся збоку, на мае пытанні адказвалі маўчаннем. Я пачаў ужо баяцца, што ў нашай сям'і здарылася штосьці дрэннае...

А тут справа мелася зусім інакш. Генрык жа гаварыў па-руску. За час разлукі з родным домам ён проста развучыўся карыстацца польскай мовай. І гэта найбольш бянтэжыла ягоных сяброў.

Хтосьці з іх паімчаўся на Кракаўскую вуліцу, дзе ў гэты час жыла Антаніна Букерт, і паведаміў ёй, што вярнуўся яе сын Генрык, толькі цяпер ён нейкі іншы, у рускім мундзіры і гаворыць выключна па-руску.

На вуліцы Чарнецкага жылі па-суседску Кузняцовы. З іх дачкою, з Іркай Кузняцовай, Генрык калісьці сябраваў. Пабачыўшы яе сярод натоўпу дзетвары, падыйшоў прывітацца. Ірка не адступілася ад яго, смела, з сяброўскай усмешкай падала яму руку, запрасіла ў хату. Маці яе таксама ўзрадавалася. Папрасіла за стол, пачаставала чым магла ў гэты галодны, ваенны час 1944 года.

А маці Генрыка, даведаўшыся ад дзяцей, што нейкі рускі юнак падаецца за яе сына, найперш пабегла за парадай да свайго брата Карповіча, які жыў на вуліцы Адэскай.

— Юзак! — прагаварыла яна ўсхвалявана. — Кажуць, што Генрык вярнуўся! Толькі, гавораць, што ён нейкі рускі...

Брат найперш распытаў пра ўсё дакладна, а потым заявіў:

— Зараз мы ўсё гэта выяснім, — і звярнуўся да савецкага капітана, які стаяў у яго на кватэры, ды меў у распараджэнні аўтамабіль. Капітан не адмовіўся дапамагчы разабрацца ў гэтай справе. Разам паімчаліся на Баяры. На вуліцы Далёкай, што па-суседску з Чарнецкай, заўважылі нейкі дзіўны натоўп. Сярэдзінай вуліцы ішоў салдат, высока трымаючы галаву, накрытую шапкай-кубанкай, у добра дапасаванай шынелі. Суправаджалі яго хлапчукі. Маці здалёк пазнала сына.

— Генек, сыночак! — закрычала яна, пераадольваючы грукат капітанскага „газіка". І Генрык кінуўся да яе. Так, проста на вуліцы, на вуліцы Далёкай у Беластоку, сын сустрэўся з маці пасля звыштрохгадовай разлукі.

Маці доўга туліла да грудзей свайго сыночка, як бы баялася, каб нечакана зноў яго не затраціць.

— Я ж двойчы пехатой аж у Друскенікі хадзіла за табою! — гаварыла яна цераз слёзы. І была гэта праўда. І гэтую праўду трэба было б памножыць прынамсі ў дзвесце разоў, бо амаль усе бацькі шукалі сваіх дзяцей і ў Гродне, і ў Друскеніках, і ў Баранавічах. Тут, аднак, абрываўся след іх прысутнасці. У даўнейшым дзіцячым лагеры гаспадарылі ўжо зусім іншыя людзі, а на станцыі ў Друскені-

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 4)

## ХРОНІКА

былі ў праўленне гуртка: Міхась Паўлоўскі — старшыня, Аляксандр Паскробка — сакратар, Аліна Плева — скарбнік, Марыя Васілюк і Павел Семянюк — члены. У рэвізійную камісію выбраны: Васіль Зенюк — старшыня, Рыгор Плева і Таіса Грыгарук — члены. Затым прынята была праграма дзейнасці гуртка і выбраны дэлегаты на канферэнцыю аддзела.

17.03.Падобны сход абслужылі ў Арэшкаве актывісты аддзела — Галіна Маліш і Сяргей Харкевіч. Там члены гуртка, якіх налічваецца 33 асобы, у дыскусіі найбольш увагі прысвяцілі навучанню дзяцей беларускай мове і павелічэнню падпіскі „Нівы". У выніку галасавання былі выбраны ў праўленне гуртка: Надзя Андрасюк — старшыня, Ніна Аверчук — сакратар, Анна Бугвін — скарбнік, а таксама Ніна Гурын, Таццяна Гурын і Анастасія Герман. Рэвізійную камісію ўзначаліла Марыя Скепка.

19.03. Гурток БГКТ у Новым Корніне на справаздачна-выбарным сходзе прыняў у свае рады 8 новых членаў. Цяпер праўленне гуртка складаюць: Галена Леванюк — старшыня, Ірына Філіпюк — сакратар, Мікалай Германюк — скарбнік, Васіль Чэпель і Міраслаў Філіпюк — члены. Старшыня рэвізійнай камісіі — Анатоль Тышко.

19.03. У справаздачна-выбарным сходзе гуртка БГКТ у Трывежы ўдзельнічаў намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня. Паінфармаваў прысутных аб ходзе будовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і яго патрэбах. У выніку выбараў у склад праўлення гуртка ўвайшлі: Мікалай Габрылеўскі — старшыня, Галіна Анджэеўская — сакратар, Славамір Гацута — скарбнік, Якуб Пракапюк і Іван Давідзюк — члены, а старшынёю рэвізійнай камісіі выбраны Васіль Сегень.

20.03. Гурток БГКТ у Новым Беразове абслужыў дзеяч БГКТ Пётр Скепка. Там у праўленне гуртка выбраны: Валянціна Бірылка — старшыня, Валянціна Башун — сакратар, Кацярына Мартынюк — скарбнік, Валянціна Васюк, Лідзія Вэбко і Ніна Швед — члены. Старшынёю рэвізійнай камісіі выбрана Марыя Мароз.

*

21.03.Праўленне гуртка БГКТ у рэдакцыі „Ніва" прыняло план працы да канца бягучага года. Прадбачаны 4 інфармацыйныя сходы, звязаныя з беларускай культурай і гістарычнай тэматыкай.

22.03. Адбылося пасяджэнне гарадскога праўлення БГКТ у Беластоку і яго рэвізійнай камісіі з удзелам нававыбраных праўленняў гурткоў БГКТ, існуючых у горадзе. Абмяркоўваліся матэрыялы і справы, звязаныя са справаздачна-выбарнай канферэнцыяй аддзела.

(мх)

# ЯНКА САЛАВЯНЮК— МАСТАК -ВІРТУОЗ



Янка Салавянюк нарадзіўся ў вёсцы Навасады, што знаходзіцца недалёка ад Гайнаўкі. Нейкі час працаваў настаўнікам беларускай мовы, ручных прац і іншых прадметаў у навакольных пачатковых школах.

У 1969 годзе закончыў Мастацкае аддзяленне Універсітэта імя Мікалая Каперніка ў Торуні. Адтуль ён вярнуўся ў роднае староннє — не ўмеў і не хацеў працаваць у іншым рэгіёне. Толькі тут мог выявіцца па-сапраўднаму яго талент.

Выхаваны ў асяроддзі праваслаўнай культуры, уражлівы на ўсё тое, што ў галіне матэрыяльнай культуры было створана на гэтай тэрыторыі рознымі творцамі на працягу многіх эпох, ён таксама імкнецца ўпісацца сваім талентам і творчай працай у старонкі гісторыі.

Янка Салавянюк лічыцца спецыялістам і аўтарытэтным чалавекам у галіне малявання ікон, але ён — таксама і добры разьбяр. Барэльефы і ажурная разьба, якія ў апошні час стварае ён у царкве Св. Тройцы ў Гайнаўцы, пераконваюць, што маем тут дачыненне са спелым мастаком, які, як віртуоз, аперыруе долатам. Цудоўна выглядае таксама вялікі іканастас, выкананы ім.

Можна быць упэўненым, што ўсё створанае і што яшчэ ствараецца Янкам Салавянюком, упрыгожыць урачыстасці, запланаваныя ў гэтай царкве з нагоды 1000-годдзя хрышчэння Русі.

**Ад рэдакцыі.** Цешыць нас і той факт, што Янка Салавянюк актыўна ўключыўся ў будаўніцтва Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Гэта ён менавіта не прыняў ніякіх грошай за праекты „цаглінак“ і „падзякі“ для ахвяравальнікаў на Беларускі музей. Абяцае дапамагаць сваёй мастацкай працай Беларускаму таварыству і Музею таксама ў будучыні.







ФОТАРЭПАРТАЖ РАМАНА СЯНЬКО

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ПАЙШЛО НАША МАСТАЦКАЕ СЛОВА Ў ЛЮДЗІ

19 сакавіка ў Беластоку адбыўся цэнтральны агляд школьнага дэкламатарскага конкурсу 1988 года. Сёлета ён быў прысвечаны творчасці беларусаў, пражываючых у Польшчы і аб'яднаных у літаратурным аб'яднанні „Белавежа". У гэтым годзе „Белавежы" спаўняецца 30 год. За гэты час у „Белавежы" выхавалася значная група пісьменнікаў, выдадзена было шмат цікавых кніжак на беларускай мове.

З думкай аб набліжэнні творчасці беларускіх пісьменнікаў, пражываючых у Польшчы, да дзяцей і моладзі была і пададзена тэматыка сёлетняга конкурсу.

І арганізатарам гэтая задума ўдалася. Конкурс быў вельмі масавым і багатым. Ва ўсіх школах, дзе вывучаецца беларуская мова, былі праведзены школьныя святы беларускага слова. У многіх школах былі яны спалучаны з беларускімі песнямі, сцэнкамі. Часта былі гэта сапраўдныя беларускія вечарыны ў школах. Кожная школа мела права выслаць найлепшых сваіх прадстаўнікоў на раённы агляд.

Раённыя агляды адбыліся ў Гайнаўцы, Беластоку і Кляшчэлях. І ў кожным удзельнічала па 20-30 чалавек. На цэнтральны агляд прыехалі найлепшыя — лаўрэаты раённых конкурсаў у дзвюх катэгорыях — II-V і VI-VIII класы, усяго 40 чалавек. Усе яны вельмі добра падрыхтаваліся, прайшоўшы густое „рэшата" школьных і раённых конкурсаў. І сапраўды, выступілі амаль усе па-майстэрску. Многія захоўваліся на сцэне як вопытныя дэкламатары, разыгрывалі творы па ролях, змяняючы нават голас адпаведна да асобы, выказваліся бездакорным вымаўленнем і цікавай мастацкай інтэрпрэтацыяй. А самае галоўнае — усе яны глыбока пазнаёміліся з творчасцю нашых пісьменнікаў, знайшлі свае любімыя творы і любімых аўтараў і прапагавалі беларускае мастацкае слова сярод сваіх сяброў.

І колькі каштавала ім гэта ўласнага часу, і невыгод з даездамі на конкурс у зімовыя марозныя і снежныя раніцы! Але, відаць, любяць яны сваю родную мову, шануюць сваіх настаўнікаў, якія з імі захацелі папрацаваць і ў нашу супольную справу ўкладалі столькі сэрца і працы.

Найбольш папулярнымі аўтарамі ў школьным конкурсе былі, вядома, пісьменнікі, у якіх часцей здараюцца творы для

(Працяг на стар. 10)


*Удзельніцы цэнтральнага дэкламатарскага конкурсу са школы № 3 у Бельску-Падляскім. Рыхтавалі іх да конкурсу настаўнікі Тамара Русачык і Сцяпан Бурыла.*


*Удзельнікі конкурсу — Бася Садоўская з Арэшкава і Ася Барташэвіч, Івона Харкевіч і Адам Паўлоўскі з гайнаўскай школы № 2. Рыхтавалі іх да конкурсу настаўніцы Валя Дзмітрук і Софія Кердзялевіч.*


*Удзельніцы цэнтральнага дэкламатарскага конкурсу са школы ў Орлі — Ася Гаворка, Анеля Федаровіч, Ася Куна і Аня Главацкая. Рыхтавала іх настаўніца Анна Шыманская.*



**Якуб Колас**

# ВЯЛІКДЗЕНЬ

**(Урыўкі з паэмы „Новая зямля")**

Прыйшла вялікая субота,
Даўно прыпынена работа,
І ўжо пад вечар сама хата
Была прылучана да свята:
Лагоднасць, згода і павага
І вельмі сталая развага
Увесь гэты дзень тут панавалі.
І блізкасць свята шанавалі
Старыя, дзеці і падросткі
І шуму тут не падымалі,
Як будным днём з-за кожнай косткі.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Мужчыны загадзя пабрылісь,
Вадою цёплаю памылісь,
Бо трэба ж ім было сабрацца
Паехаць ў царкву спавядацца.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Над ціхай талаю зямлёю
Навісла ночка той парою.
Было спакойна і лагодна,
Як бы сама прырода тая
Паважнасць свята адчувае,
З людзьмі жыве супольна, згодна.
Маўчаць хваіны, ані зыку,
Не шэпне гэты бор-музыка,
Стаіць маўчком і разважае,
Відаць, Вялікадня чакае.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Антось і Костусь ідуць з хаты,
Цянююць вуліцай дзяўчаты,
Шчабечуць весела, смяюцца,
І хлопцы дзесь перагукнуцца.
І ўсе вясёлы, ўсе рухлівы
І святам заўтрашнім шчаслівы.
А царква, макаўка святая,
Народу поўна, блескам зззяе.
Сярод царкоўкі плашчаніца
Стаіць між елачак зялёных.
Кабеты, дзеўкі, маладзіцы
Ідуць, плывуць да плашчаніцы
У хустках белых і чырвоных.
Набожна хрысцяцца, уздыхаюць
І лбом данізу прыпадаюць.
Направа сталыя мужчыны
Стаяць, разгладзіўшы маршчыны.

. . . . . . . . . . . . . . . .

І блізак час святой дзянніцы.
„Хрыстос васкрос!" — з гары-званіцы
Вяшчае першы звон шчаслівы.
Народ увесь, бы ў полі ніва,
Буйнымі гнецца каласамі,
Скланіўся ціха галавамі.

(Працяг на стар. 10)



## НЯМА ЧАГО ХВАЛЯВАЦЦА

Выгадаваў бацька кабанчыка. Тым часам Вялікдзень набліжаўся, самы попыт на свежаніну. Клікнуў стары з горада на падмогу двух сыноў, ды яшчэ зяця ў прыдатак. А яны ў яго паслухмяныя хлопцы. Дружна прыімчаліся ў вёску.

Не марудзячы, прыступілі да справы. Работа спорылася, гарэла ў руках спрытных дзецюкоў. Умомант управіліся з тым кабанчыкам, старанна памылі, разабралі.

Тут старэйшы сын і кажа бацьку:

— Давай, татка, адпачынак зробім. Падсілкуемся, а то стаміліся дужа.

— А мо, дзеткі, спачатку ўсё ўпарадкуем, а потым ужо...

А сын пярэчыць:

— Куды нам спяшацца. Упарадкуем пасля падмацунку. Я які пудзік вазьму. Лявон таксама не ўломак. Не менш за мяне панясе. А пра зяця і казаць няма чаго. Ён жа на „Паланезе". Дык з твайго дазволу, і ўсё астатняе можа забраць. Так што не хвалюйся, бацька.

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

— Як змагаюся з алкагалізмам? Не даліваю, — сказала буфетчыца.

*

Кентаўраў загубіла мутацыя. У чатырохногіх скакуноў з чалавечымі галовамі пайшлі дзеці на дзвюх нагах, але з конскімі галовамі.

*

Пітон праглынуў труса і падавіўся. Перамог-такі пітона трус!

*

Нешта разумнікаў мала — ніхто не ведае разумнейшых за сябе, і дурняў шмат — дурнейшых за сябе ведае кожны.

*

— Чакайце, у некралогу яшчэ не тое пра мяне напішаце, — зларадніча юбіляр.

*Марцін Коўзкі*

З суседскага агародчыка



— П'янствуеце? А вы ведаеце, што ў нас хто не працуе, той не есць?

— Дык я ж і не закусваю.

# НІЎКА




Якая з нумараваных крапінак з'яўляецца дэталлю, якой не хапае на прадстаўленым малюнку?

Адказ: крапінка 4.

## ПАДЗЯКА

Задрыпанец спяшаецца да цягніка. Спатыкае незнаёмага і пытаецца:

— Выбачайце, пане, якая гадзіна?

— Пяць мінут па шостай.

— А, каб табе язык спух! Спазніўся на цягнік.

## МІКОЛКА

— Мама, хто, уласна кажучы, зносіць яйкі?

— Куры, сынок.

— А певень не?

— Не. Певень не зносіць яек.

— Так? А ён што, не хоча ці не ўмее?

## У СТРАЎНІ

— Вось у гэтай страўні кормяць, як на забой.

— Чаму, як на забой?

— Учора мой знаёмы тут паабедаў, а ўвечары... памёр.



Настолькі высока ўзляцеў, што да яго пачалі адносіцца пабожаску.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Прадстаўнік з раёна пытае старшыню сельсавета:

— У вашым раёне п'юць гарэлку?

— П'юць...

— А самагон гоняць?

— Гоняць...

— А чаму ж вы занялі пазіцыю пабочнага назіральніка?

*

У галодныя трыццатыя гадыледзі Астар часта наведвала трушчобы Глазга і Эдзінбурга, чытаючы жонкам рабочых лекцыі аб кулінарных вартасцях супу з трасковых галоў.

Пасля адной з такіх лекцый устала пажылая жанчына:

— Ваша светласць, лекцыя была вельмі цікавая, але ў мяне ёсць пытанне. Пакуль мы будзем есці суп з трасковых галоў, хто будзе апляталь траску?

*

Галівудская зорка звоніць да сяброўкі:

— У наступным тыдні выходжу замуж.

— Віншую! Твой нарачоны, відаць, у сёмым небе?

— Наадварот, ашалеў.

— Чаму?

— Бо выходжу за яго бацьку!

## АШЧАДНАСЦЬ

— Ваша дачка сама шавачка, а шые сукенкі ў маёй суседкі?

— Ведаеце, сама яна гэтак танна ніколі б не пашыла...

З „Весніка Задрыпоніі"

## ЯСНАЯ ГАРАНТЫЯ

Наручныя гадзіннікі з вечнай гарантыяй пачаў выпускаць Шпунцікаўскі завод. Шчаслівыя ўладальнікі навінкі ўсё жыццё змогуць да пяці разоў у месяц бясплатна карыстацца паслугамі гарантыйнай майстэрні.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

„Дарагая рэдакцыя, чула, што існуе фіктыўны шлюб. Павядаміце, калі ласка, падрабязней: што гэта такое, з якога ўзросту ў яго трэба ўступаць і якія патрэбныя дакументы?



## УЗДЫХАЕ ПЕВЕНЬ ЦЯЖКА...

Уздыхае певень цяжка:
Кураць куры — ды ўзацяжку!..
Цэлы дзень сядзяць, сакочуць,
Нават несціся не хочуць,
Не выводзяць куранят:
„Што нам той дзіцячы сад!
Ёсць на гэта інкубатар..."
Плача певень без зарплаты...
Ні капейкі, ні зярнятка
На кішэнныя выдаткі.
Бабылём ідзе на шпацыр,
Слёзы лье: „Эмансіпацыя!
Шмат было — ва ўсе эпохі
Бунтаваліся „панчохі".
Ды курыная, прызнацца,
Горшая з эмансіпацый..."
Аж на ўсе дванаццаць струн
Заікаецца пявун,
Пер'е на сабе дзярэ:
„Ку-рацъ ку-ры...
Ку...ку...рэ..."

**Васіль Зуёнак**




# Курёзы

## СВАБОДУ КАРОВАМ

У ліпені ў Швецыі будзе прыняты закон, які, здаецца, зробіць мясцовых кароў самымі шчаслівымі жывёламі на свеце. Міністр сельскай гаспадаркі Матс Хельстром заявіў, што кожная карова мае права пасвіцца свабодна. Законапраект прадугледжвае поўную забарону на такія індустрыяльныя спосабы вырошчвання жывёлы і птушкі, як клетачнае ўтрыманне, бязвыпасны адкорм, развядзенне ў загонах. Ён падрыхтаваны ў сувязі з магутным грамадскім рухам у абарону правоў жывёл.

## „МІС ІТАЛІЯ"... ЗАМУЖАМ

У Італіі пасля чарговага конкурсу прыгажосці выбухнуў скандал: дзевятнаццацігадовая Мірка Віёла, абраная „міс Італія", павінна пазбавіцца сваёй кароны. Як стала вядома, яна замужам і мае двухгадовага сына. Яна прызнаецца, што парушыла правілы конкурсу, у якім маюць права ўдзельнічаць толькі незамужнія. Мірка Віёла заявіла, што проста хацела даказаць, што яна самая прыгожая.




**Ёсць людзі, у якіх на тварах заўсёды напісана, як да цябе адносіцца начальства.**